# Тыднёвік Магілёўскі

№ 25 (25)
24.10.97.


## Сацыяльна-эканамічнае становішча: акцыі пратэсту



*Сённяшнім вечарам, а 18-й гадзіне, ля гатэлю "Днепр" дэмакратычныя арганізацыі і незалежныя прафсаюзы Магілёва мяркуюць ізноў (пасля 10-га кастрычніка) выставіць пікет супраць пагаршэння жыцця працоўных, няспыннага павышэння цэнаў, нізкіх заробкаў і іншых трывожных сацыяльных "паказчыкаў".*

*Пікетчыкі будуць "узброены" не толькі сваім адкрытым незадавальненнем, але таксама інфармацыйнымі матэрыяламі аб стане эканомікі ў краіне, вобласці і горадзе. Гэтыя спецыяльна падрыхтаваныя "даведачныя ўлёткі" зможа атрымаць кожны, хто імі зацікавіцца. Пікетчыкі гарантуюць дакладнасць кожнай лічбы, абгрунтаванасць статыстычнага аналізу і зробленых на гэтай падставе высноў.*

*Іншым часам даводзіцца чуць меркаванне, быццам "усе гэтыя пікеты і дэманстрацыі" нічога не даюць. Маўляў, улада і без таго ведае, што ў нас дрэнна і чаму. Магчыма, і так. (Хаця кампетэнтнасць многіх з тых, хто сёння ва ўладзе, выклікае ў спецыялістаў відавочнае сумненне). Што тычыцца акцыяў пратэсту, дык яны маюць на мэце дэманстрацыю грамадскай нязгоды як з асобнымі дзеяннямі ўлады, так і з усёй яе палітыкай. Без выяўнага пратэсту тыя, хто трымае ў сваіх непрафесійных, а часам і несумленных руках нашыя жыцці і лёсы, маюць права супакойваць сябе тым, што ўсё ідзе добра і нармальна. Ад такога настрою можна чакаць толькі яшчэ большага пагаршэння сітуацыі.*

*Пікет мае на ўвазе і такую задачу: абудзіць людзей ад пасыўнасці і абыякавасці, аб'яднаць іх агульныя думкі і дзеянні дзеля карысці свайго Дому — роднай Беларусі.*

**АРГКАМІТЭТ.**



У МЕНСКУ днямі адбылася дэманстрацыя журналістаў незалежных СМІ супраць "скалазубаўскага" закону аб друку, які распрацаваў палкоўнік Замяталін, а зацвердзіў беларускі "ніжэйшы парламент". У акцыі пратэсту прыняў удзел і выступіў на мітынгу Павал Шарамет, у падтрымку якога ўвесь час турэмнага пакутвання журналіста выступала наша газета. Карэспандэнт ТЫДНЁВІКА, які патрапіў у сталіцу падчас гэтай дэманстрацыі, перадаў Паўлу ад журналістаў і чытачоў ТМ пажаданні здароўя і далейшай трываласці. У сваю чаргу Павал падпісаў для нашых чытачоў вось гэты Аўтограф.

## Павал Шарамет павітаў нашых чытачоў

Чытачам і журналістам
"Маг. Тыд." з пажаданнямі поспехаў.
П.Шерамет

## Да будучыні — аб'яднаным шляхам

*На мінулым тыдні ў Менску чатыры дні працаваў другі тур маладзёвага дэмакратычнага семінара па праграме UNITED WAY (Аб'яднаны шлях). Гэтым разам ягонай тэмай былі пытанні стратэгічнага планавання. У імпрэзе прымаў удзел навучэнец Магілёўскай вучэльні культуры і аднача-сова наш карэспандэнт* ***ДЗЯНІС НОВІКАЎ.*** *Вось яго ўражанні.*

Прыемна было сустрэцца з тымі слухачамі семінара, з кім пасябраваў яшчэ летам, на першым туры ў лагеры "Світанак". Ніхто з нас за мінулы час не адмовіўся ад жадання вучыцца таму, што неабходна ведаць, каб свядома будаваць новую вольную і дэмакратычную краіну. Шкадавалі мы напачатку толькі аб тым, што вымушаны былі кожны вечар а 18-й гадзіне пакідаць памяшканне, дзе займаліся. Але хутка нам гэта нават спадабалася, бо заставаўся час на вольныя гаворкі, сяброўства, шпацыраванне па Менску.

Найбольш спадабалася, вядома, праграма семінара і гульнёвая форма, у якой праходзілі заняткі. Яна дазваляла праявіць рэакцыю, імправізаваць, спрачацца. Усё гэта было на карысць вучобе. Гэта яскрава выявілася падчас абмеркавання прававых аспэктаў нашага жыцця. У многіх з нас знайшліся свае пытанні сам насам з настаўнікамі семінара, бо паўсюдна моладзь праяўляе актыўнасць, за якую часамі церпіць несправядлівыя прыціскані. Нам дапамаглі як парадамі, так і адпаведнай "літаратурай". Мы таксама мелі магчымасць папрацаваць на кампутары, пакарыстацца багатай біблітэкай.

Развітваючыся са старымі і новымі сябрамі, самі сабе жадалі хутчэйшай чарговай сустрэчы на аб'яднаным шляху, які выбралі для свайго жыцця.

**ГАРТАЮЧЫ АФІЦЫЙНЫЯ ДАКУМЭНТЫ**

## Для каго кірмаш зьяўляецца залатым дном?

Гэта зусім не такое простае пытанне, як можа паказацца любому з нас на першы погляд. Без рызыкі памыліцца можна сцвярджаць толькі тое, што людзей, для якіх кірмаш — дом родны і нядрэнны кармілец, нямала. Пры гэтым, зразумела, яны не стаяць за прылаўкамі і, тым больш, не вытвараюць для продажу ўласнай прадукцыі. У рэальнасці ўладальнікі і вытворцы тавараў і пакупнікі якраз і не належаць да шчасліўцаў, што дзеляць немалыя прыбыткі кірмашовага бізнэсу. Мы належым да тых, хто "скідаецца" на гэтыя дывідэнты. А каму яны дастаюцца — таямніца...

У чарговы, магчыма, соты раз высветліць гэта паімкнулася напачатку года камісыя аблвыканкама. І, зразумела, з тым жа поспехам, што і ўсе папярэднія камісыі. Гэта значыць, з нулявым. Згубіўшы немала рабочых дзён, яна падрабязна і дэталёва "абшарыла" усе 29 кірмашоў вобласці толькі для таго, каб канстатаваць тое, што выдатна было вядома і без усялякай праверкі: на кірмашах няма парадку.

Пакупнікоў падманваюць, бо ўладальнікаў тавару давяць паборамі, прымушаючы іх, у сваю чаргу, ісці на "свой" падман і г.д. Камісыя "падмеціла", што **"у асноўным на кірмашах вобласці гандлююць прыватныя прадпрымальнікі (ці бываюць іншыя? — ТМ), якія ў большасці зьяўляюцца перакупшчыкамі, а таксама грамадзяне, якія вытвараюць сельскагаспадарчую прадукцыю. Акрамя іх гандлююць аўтамагазіны прадпрыемстваў гандлю, мясакамбінатаў, хлебазаводаў. Улік рэалізаваных тавараў на кірмашах у асноўным носіць прыблізны характар, а ў асобных раёнах адсутнічае наогул. У нязначнай меры ажыццяўляюць гандаль на кірмашах калгасы і саўгасы (з 384-х — 25 — ТМ)".**

Гэта пры тым, што ўсе рынкі (акрамя Чэрыкаўскага, які знаходзіцца ў прыватнай уласнасці) называюцца і зьяўляюцца калгаснымі. Але неадпаведнасць назве і сутнасці —наша старая хвароба, якая даўно нікога не здзіўляе. Горш іншае. У даведцы камісыі адзначаецца, што **"пастаянна маюць месца факты парушэнняў падаткавага заканадаўства і правілаў гандлю, што ў гандляроў адсутнічаюць якія-небудзь дакумэнты, якія б пацвярджалі асобу гандляра і ягонае права на гандаль, дакумэнты на тавары (адкуль яны, колькі ўсяго, якой якасці і г.д.). Амаль паўсямесна гандаль вядзецца з выкарыстаннем няспраўных вагавых прыбораў".**

Усе гэтыя парушэнні, як сумленна адзначаюць аўтары даведкі, не новыя. Але выправіць іх нялёгка, бо адміністрацыі рынкаў, у прыватнасці Цэнтральнага ў Магілёве, **"прыкрываюцца Статутам прадпрыемства, у якім адсутнічае з боку адміністрацыі права кантрольнай функцыі за работай гандлюючых"** (?!—ТМ). Як сказаў бы незабыўны Аркадзь Райкін: хлопцы, вы добра ўладкаваліся!

Высокія цэны на кірмашах захоўваюцца і па той прычыне, што з гандляроў, як адзначаюць аўтары даведкі, бяруць неадэкватныя грашовыя зборы (2 млн. руб. у месяц). Кірмашовая рэнтабельнасць па гэтаму паказчыку дасягае 80%, што эканамічна неабгрунтавана. Аднак гэта становіцца "зразумелым", калі даведваешся, што 74% усіх прыбыткаў кірмашы маюць ад збораў за гандлёвыя месцы, а іншыя паслугі (паколькі на іх развіццё не звяртаецца ўвагі), "каштуюць" усяго крыху больш 10%. Але канчаткова ўсё разумееш, калі даведваешся аб тым, што 40% прыбытку кірмашоў ідзе на заработную плату іх адміністрацый. Не забываюць гэтыя адміністрацыі і вышэйстаячых кіраўнікоў: напрыклад, **"Быхаўскі кірмаш пералічыў са сваіх прыбыткаў у мінулым годзе 265 млн. руб. на ўтрыманне адміністратыўна-кіраўніцкага апарату райспажыўсаюза, а Бабруйскі пералічыў амаль мільярд —аблспажыўсаюзу".**

Наогул, чытаць даведку спецыяльнай камісыі цікава, але пры гэтым міжволі спяшаешся да апошняй старонкі — якія высновы? І знаходзіш іх. Пашкадуем чытачоў і не станем падрабязна прыводзіць такія глыбокадумныя заўвагі, як "прыдаючы вартасць... паляпшэнне арганізацыі... далейшае развіццё...", а пяройдзем да галоўнага. Пазнаёмім з асноўнай прапановай камісыі, тым больш, што вам ніколі не здагадацца пра яе.

Вось яна (для дакладнасці цытуем на мове арыгіналу): **"...целесообразно было бы выделить рынки в самостоятельную государственную структуру, создав при этом областное управление рынками, не зависящее от каких-либо торгующих организаций, передав ему с баланса на баланс основные и оборотные средства рынков".**

Зноў не ўтрымаемся ад спасылкі на класыкаў сатыры: замест таго, каб падмятаць вуліцы, мы ахвотней ствараем упраўленні па падмятанню (І.Ільф, Я.Пятроў). Пасля гэтай прапановы відавочна і тое, як на самой справе нашая ўлада ставіцца да рынкавай эканомікі, гаспадарчай самастойнасці людзей.

Наколькі нам вядома, прапанова аблвыканкамам пакуль не прынята. Замест яе вырашана распрацаваць чарговую "комплексную программу".

Тэрмін яе зацверджання прайшоў два месяцы таму. Так што праверыць, што змянілася ў рабоце кірмашоў, мае магчымасць кожны, хто карыстаецца іх паслугамі. Не раім толькі шукаць адказу на пытанне, якое пазначана ў загалоўку. Хоць ён, гэты адказ, калі гаварыць сумленна, — на паверхні...

**Г.С.**

Да заканчэння гастроляў «ДЗЕІ» у Магілёве

# Круці не круці... Беларусі быць!



Дзесяць дзён, якія ўзрушылі тэатральную грамадскасць горада, завяршаюцца заўтра. Менскі муніцыпальны тэатар «Дзе-Я?», які ў сваю чаргу быў прыемна ўражаны нечакана цёплым і цікаўным прыёмам магілёўцаў, паедзе па краіне далей. А з намі застануцца добрыя ўспаміны ад сустрэчаў з мастацтвам.

Аўтару гэтых радкоў зусім не выпадае прэтэндаваць на прафесыйны аналіз працы творчага калектыву. Ён належыць да тых не надта «утончённых» аматараў тэатра, якім заўсёды падабаецца амаль усё, што робяць дзеля яго акторы на сцэне. А ў нашым выпадку ён са шчырым сэрцам гатовы дараваць творчаму калектыву «Дзеі» любыя (калі іх хто заўважыць) недасканаласці толькі за тое, што тэатар адкрыта і асэнсавана беларускі. Пра натуральную якасць любога творчага калектыву — быць нацыянальным — было б дзіўна асобна гаварыць у любой іншай краіне. Але не ў нас. У нас гэта творчы подзвіг: такая горкая рэчаіснасць.

Адметнасць тэатральнага рэпэртуару «Дзеі», па прызнанні рэжысёра і мастацкага дырэктара Міколы Трухана, перш за ўсё — у адкрыцці нанова твораў пачынальніка сучаснай беларускай драматургіі Францішака Аляхновіча, які ўзначальваў беларускі тэатральны рух у 20-30-я гады. Гэты таленавіты чалавек — выдатны драматург, актор, мастак, рэжысёр і аўтар тэатральных манаграфіяў, першым з нашых выбітных суайчыннікаў патрапіў на сталінскія Салаўкі, а ў 1944-м годзе быў забіты ў Вільне «при невыясненных обстоятельствах». Ён стварыў 29 пьесаў, кожная з якіх вызначаецца тым нацыянальным каларытам і духам, якія немагчыма падрабіць, і на падставе якіх толькі і ацэньваецца ў свеце праца кожнага сапраўднага творцы. Высокае прызнанне тэатра на фестывалях апошніх трох год у Злучаным Каралеўстве Вялікабрытаніі — найлепшае таму сведчанне. Тамтэйшая газетная крытыка (фрагменты з якой мы змясцілі ў мінулым нумары ТМ) шкадавала толькі аб тым, што не ведае беларускай мовы.

У Магілёве, да нашага гонару, на родную мову яшчэ не забыліся: зала тэатра была штовечар запоўненая, і што асабліва прыемна — пераважна моладзю. Аднак тое, што мова гучала толькі на сцэне, а не на прыступках тэатра або ў файе, балюча сведчыла пра «поспехі» цяперашняй адукацыйнай палітыцы ў краіне, якая праводзіцца насуперак гістарычнай магчымасці нацыянальнага Адраджэння. Вось і тэатар у спэктаклі па п'есе А.Аляхновіча «Круці не круці — трэба памярці» ставіць залі пытанне: ну і што з таго, што ты беларус, што з таго, што памрэш зараз, або праз 10 ці 20 гадоў, калі ўсё адно памрэш?..

Публіцыстычна ці, калі хочаце, палітычна, тэатар на гэтыя пытанні не адказвае. І правільна робіць, бо ў мастацтва ёсць свае мэтады і свае сакрэты ўплыву на людзей. А пакінутыя без адказу пытанні не даюць спакою гледачам.

Не павінны даваць спакою. Мо тады і здзейсніцца спрадвечная мара продкаў, многіх пакаленняў патрыётаў Бацькаўшчыны, што сышлі з пакутамі, так і не ўбачыўшы Беларусь «у роўнай волі, у роўным стане між усіх народаў». Зараз жа, як ні круці, пачэсная задача Адраджэння перайшла да сённяшняга пакалення, якое, будзем верыць, не памяняе нацыянальную тоеснасць на інтэграцыйную бязроднасць. З гэтай тоеснасці ўсё добрае ў краіне і пачнецца...

Усім моцам мастацтва прымусіў нас разважаць аб гэтым тэатар «Дзе-Я?». Між іншым, не толькі спэктаклямі паводле Ф.Аляхновіча. Пра тое ж сведчылі і Гогаль, і Шэкспір, імёны якіх таксама ўпрыгожваюць афішу менскага тэатра. Пра тое, што справа не ў працягласці жыцця як такога, а ў ягоным змесце і якасці, — заўжды гаворыць любы сапраўдны мастак, драматург, паэт ці кампазытар.

ТМ выказвае спадзеў на тое, што сумленны адказ на пытанні «Дзе мы?» і «Хто мы?» за гэтыя дзесяць дзён далі сабе ўсе наведвальнікі імпрэзаў беларускага тэатра. Падчас гастроляў з нейкім пяшчотным сумам разумелася, што Беларусь жыве, вось яна, побач з табой — ідзі ж да яе, прытуліся. І падтрымай...

**Генадзь СУДНІК.**

***Напачатку лістапада беларускі народ адзначае Дзень памяці продкаў — Дзяды. З 1988-га года ён стаў і днём памяці ахвяраў камуністычнага рэжыму. У нядзелю, 2-га лістапада, а 14-й гадзіне ля Крыжа (кар'ер побач з мясакамбінатам), дзе НКВД праводзіў масавыя расстрэлы, збяруцца магілёўцы каб ушанаваць памяць тых, хто прайшоў праз пекла бальшавіцкай дыктатуры. У гэты ж вечар у дамах магілёўцаў будуць, спадзяёмся, запалены свечкі як напамін аб тым, што тыя, хто пайшоў ад нас, наканавалі нам, нашчадкам, будаваць на Бацькаўшчыне прыстойнае і сумленнае жыццё.***

**Гарадская арганізацыя БНФ "Адраджэньне".**

# Паэтычная гасцёўня Тыднёвіка

*Гэтым разам мы выбралі творы паэтак, якія на працягу бягучага года друкаваліся ў газэце «Наша Ніва».*

Агата Нагорная

## Роздум каля храму

Жывем у час, калі прадаць
магчыма ўсё: Радзіму, душы.
Ў сябе самой хачу спытаць:
навошта і куды мы рушым?
Жыцьцё — кірмаш, душа — тавар,
які заўсёды мае попыт,
і ўвіхаецца сьвятар,
нібыта уладальнік шопу.
І адчуваецца прымус
у цеснаце «сьвячное крамы».
Таму даруй жа мне, Ісус,
я не малюся ў гэтым храме.
Малітва — гэта стан душы
і найінтымнейшы занятак.
Шкада, калі яе вяршыць
няўцямны і балючы статак.
Каб адбывалася ў душы
сьвятла над цемрай перамога,
разгледзець трэба праз крыжы
свой асабісты шлях да Бога.





## Выпрабаваньне Радзімай

Іспыты на высакароднасьць
праводзіць гісторыя зноў.
За грошы ня купіш годнасьць.
Цана ёй — сьвятая кроў.
Жыцьця свайго не шкадавалі
Вялікага Княства сыны,
Радзіму абаранялі
і клаліся ў курганы.
Сумна шумеў і скрушна
паліты крывёю лес,
несьлі на крылах птушкі
да нас праз гады папянэз.
Разьвітацца з Радзімай нельга,
калі яна ў сэрцы жыве!
Хай нелюдзі цiснуцца ў чэргі,
хай душы нясуць сатане.
Гісторыя ім адпомсьціць,
з пагардай адкіне ў нябыт!
Гонар краіны і годнасьць
вышэйшыя за дабрабыт!

Аўтарка

* * *

Не, такія як мы не жывуць
у харошанькіх хатках
не ладуюць хляўкоў і калодзежаў
ў яблычным вецьці
і на селішчах нашых ня гойсаюць
парасяткі
і мурзатыя дзеці
А шкада, мы б магчыма
шчасьлівымі сталі
і жылі б у старынным мястэчку
з табою —
паміж горадам гэтым
з паломленым небакраем
і заснулаю вёскай
ад ніцага сонца рабою

Ніна Аксёнчык

## Ня падайце духам, браты!

Там, дзе пануе гнусь
камунафашысцкай сілы,
помніце, ёсьць Беларусь —
Бог наш аж да магілы.
Ня падайце духам, браты,
кіпіць у нас кроў Рагнеды.
Свой край, як абраз сьвяты,
пранясем праз нягоды й беды.
Камунафашысцкай хлусьні
мы супрацьпаставім сэрцы
з адвагі і дабрыні —
і нам праз вякі ня ўмерці.
Мы выйдзем на вольную шыр
пад сонцам сьвятой Пагоні.
Нібы сакавіцкі вір,
чакаюць нас верныя коні.
Ты волю сваю прымусь
гатоваю быць да схваткі.
Кліч наш «Жыве Беларусь!»
падхопяць праз век нашчадкі.

# Падпіска «Нашай нівы»

Васіль Быкаў

## Сьцяна

Новая кніга прозы Васіля Быкава рыхтавалася да выхаду ў дзяржаўным выдавецтве, але сённяшні палітычны рэжым спыніў гэтую працу.

Кніга «Сьцяна» складаецца з празаічных твораў Васіля Быкава апошніх гадоў, яе аб'ём — 17 аркушаў.

Папярэдняя падпіска складае 68.000 (кошт выдання) + 20.000 (паштовыя выдаткі).

Аляксандр Лукашук

## «За кіпучай чэкісцкай работай»

### Сцэны з жыцця катаў

Новы кніжны праект «НН» — вынік шматгадовага архіўнага пошуку, на падставе дакумэнтаў даследуюцца ўнутранае жыццё НКВД і норавы чэкістаў-курапатчыкаў, мэханізмы цэнзуры і драма сучаснага маральнага выбару, адкрываюцца невядомыя старонкі нацыянальнай трагедыі.

Папярэдняя падпіска (сабекошт + кошт перасылкі) складае 44.000+15.000.

Мяркуецца, што кнігі ўбачаць свет на пачатку лістапада.

Каб падпісацца на кнігі, трэба пералічыць грошы на наступны рахунак: **БГФ «Наша Ніва», р/р 3015201930039 «Гарант», філія АКБ «Поіск» г.Менска, Код 987.**

Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары «Для пісьмовага паведамлення» указаць назву кнігі й Ваш дакладны паштовы адрас і, калі ёсць, тэлефон.

Звяртацца можна праз пошту: **Віталь Супрановіч, 220085 Менск, а/с 5. Телефон для кантакту (8-017) 2-31-04-08 у працоўны час.**

## Беларуская служба Радыё Свабода

**Новыя хвалі, пастаянны час, нязменная Свабода**
(з 30 сакавіка 1997 г.)

| Час | KHz | Хвалі |
|---|---|---|
| 18.00-19.30 | 6105 | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 11725 | 19 |
| 22.00-23.30 | 6105 | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 9750 | 31 |
| 06.00-07.00 | 6065 | 49 |
| | 7295 | 41 |
| | 9750 | 31 |

**Паштовы адрас:**
**220005, Менск-5 п/с 111**
**Заставайцеся са "СВАБОДАЙ"!**

## Тэст на эрудыцыю

АДКАЗЫ

СПОРТ

1. у вышэйшай
2. Маркаў, Беларусь
3. Курловіч, Беларусь
4. чытайце «Прэсбол»
5. Самсонаў, Беларусь
6. Шчэрба, Беларусь
7. 50 тысячаў
8. Барыс Гельфанд
9. Раўбічы
10. СКА

ІТОГ

Адзін правільны адказ — 1 бал

— **менш за 10.** Малавата. Раім Вам паболей цікавіцца беларушчынай.

— **11-20.** Сярэдні вынік. Вы ведаеце яшчэ не ўсё.

— **21-30.** Вельмі добра. Вы маеце грунтоўныя веды і шырокі кругагляд.

— **31-40.** Выдатна! Вы — прадстаўнік эліты.

— **Больш 40.** Выстаўляйце сваю кандыдатуру на прэзыдэнцкія выбары.




Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі 25



Інфармацыйна-аналітычная газета, заснаваная Магілёўскай гарадской асацыяцыяй "КОЛА СЯБРОЎ".

*Зарэгістравана ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку за № 831.*

Газета выходзіць па пятніцах, пераважна на беларускай мове..





АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030 г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



ТЭЛЕФОНЫ: 31-04-15, 22-97-82

Газета набрана і надрукавана афсетным спосабам у Магілёўскай абласной друкарні імя Я.М.Свярдлова. Зак. 25. Тыраж 2100 асобнікаў. Кошт 2000 руб.